АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

4 – 10 СНЕЖНЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 7000 РУБЛЁЎ
№49 (189)

МАЛАДЗЕЧНА

## Было 13 – ім не пашчасціла

Гран-пры кінафестывалю ў італьянскім горадзе Палерма атрымаў фільм з Маладзечна.

У маі мінулага года кінарэжысёр **Сяргей Лук'янчыкаў** (цяпер ён дырэктар "Беларусьфільма") зняў у Маладзечне 30-хвілінную дакументальную стужку "Гарадкі – гульня народная". Мінкульт выдзеліў на яе 7,5 тысячы долараў, актыўны ўдзел у здымках бралі мясцовыя гарадошнікі. Работу адзначылі дыпломам Сусветных юнацкіх гульняў, што летась праходзілі ў Маскве.

І вось новы поспех – на фестывалі "Золата Палерма". З 800 спартыўна-дакументальных фільмаў усяго свету ў фінал прайшлі 36. Акрамя беларускага. Лаўрэатамі сталі 14 работ, а галоўны прыз – менавіта нашай.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

СМАРГОНЬ

## Беспрацоўных паменела

1304 беспрацоўныя зарэгістраваныя ў цэнтры занятасці насельніцтва. 1802 з іх – жанчыны.

Райвыканком ажыццяўляе праграму стварэння новых рабочых месцаў. З пачатку года іх створана 643, ў тым ліку, на дзяржпрадпрыемствах і ў арганізацыях 442, у МП – 19, прыватнымі прадпрымальнікамі – 136. Швейныя цэхі адкрылі ліцейна-механічны завод, завод аптычнага станкабудавання.

Для стварэння 68 новых жаночых рабочых месцаў шасці суб'ектам гаспадарання фонд садзейнічання занятасці выдзеліў ільготныя крэдыты – 4,5 млрд. рублёў.

*Павел МАКЛЮК.*

ВІЛЕЙКА

## Этнашкола

На базе пачатковай школы №6 прайшла прэзентацыя эксперыментальнай педагагічнай пляцоўкі "Этнашкола".

Сенніцкая школа імя Я. Купалы Мінскага раёна, СШ №89 Кастрычніцкага раёна сталіцы і вілейская ПШ №6 упершыню ў сусветнай практыцы эксперыментальным шляхам плануюць вызначыць трываласць месца для этнакультуры, фальклору і ўжытковага мастацтва ў масавай школе.

Разам з традыцыйнымі прадметамі вучні будуць займацца тэатральным, песенным і харэаграфічным фальклорам, рамёствамі, вучыцца граць на народных музычных інструментах.

*Аддзел інфармацыі.*

ІВЯНЕЦ

## Сэрцы саграюць дабрынёй

По блаславенні настаяцеля Свята–Еўфрасіннеўскай царквы ў прыходзе створана маладзёжнае праваслаўнае сястрынства міласэрнасці. Яно ўзяло пад духоўную апеку інвалідаў, адзінокіх і састарэлых жыхароў мястэчка.

Сёстры міласэрнасці, а гэта ўчарашнія навучэнцы прыходскай школы, наведваюць сваіх падапечных, праводзяць з імі духоўныя гутаркі, чытаюць адпаведную літаратуру, дапамагаюць прадуктамі харчавання, вопраткай.

*Уладзімір УЛАДЗІМІРАЎ.*



МАРАЗЫ

## Без аварыі

МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак увечары некалькі жылых дамоў, гарбальніца, радзільны дом засталіся без цяпла. Занепакоеныя гараджане гаварылі пра сур"ёзную аварыю на кацельні №1.

Намеснік дырэктара электрасетак **Леанід Кузняцоў**:

– Прывезлі моцна застылы мазут, які даводзілася разаграваць парай. Ён абвадніўся і не хацеў гарэць. Пакуль паліва не пазбавілі вады, абсталяванне працавала няўстойліва.

Галоўны ўрач ГТМА **Казімір Клыга:**

– Адчулі, што цяпло адключылі, дзесьці каля 22 гадзін. А падключылі каля 3–х ночы. Да такіх нечаканасцяў мы падрыхтаваныя. Непакоіліся толькі за радзільны дом. Сабралі разам усіх немаўлятак, падключылі рэфлектары, каларыферы, такім чынам "перазімавалі". Глупства, калі гавораць, што жанчын у раддоме накрывалі матрацамі. У нас хапае коўдраў. Дарослыя ў бальніцы не паспелі падстыць. Мы адразу звязаліся з электрасеткамі. Сітуацыю кантралявалі.

*Васіль САВІЦКІ.*

АПАНТАНЫЯ

## Генератар інжынера Лаца



У кватэры Віктара Лаца.
ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

*МАЛАДЗЕЧНА. Два гады таму "РГ" пісала пра работу інжынераў–энтузіястаў над "вечным рухавіком" – энергетычны контурным генератарам (ЭКГ). Што ў іх цяпер?*

*Заканчэнне на 3–й стар.*

САНЭПІД ІНФАРМУЕ

## Сімулянты з СПТВ–135

МАЛАДЗЕЧНА. За апошні тыдзень лістапада зарэгістравана 11 выпадкаў захворвання вострымі кішэчнымі інфекцыямі. Чацвёра навучэнцаў СПТВ–135 сімулявалі захворванні. Двух урач адправіў на заняткі, астатніх, якія больш удала апісвалі свае сімптомы,– у інфекцыйную бальніцу. Пасля комплексу даволі непрыемных працэдур іх выпісалі з дыягназам "здаровы". Наступным разам хлопцам варта праявіць большае вынаходніцтва.

За тыдзень зарэгістравана 3 выпадкі захворвання на мікраспарыю, 8 – на каросту, 11 – на педыкулёз. Прастудных інфекцый – 934 выпадкі.

За парушэнні санітарных нормаў аштрафаваныя дырэктары магазінаў "Эслінген" (пратэрмінаванне рэалізацыі кілбасных вырабаў), "Дзіната" (неналежнае транспартаванне хлебабулачных вырабаў), МП "Сузор'е" (умовы захоўвання і неадпаведнае таварнае суседства).

*Заканчэнне на 3–й стар.*

ВІЗІТЫ

## Генодзь Карпенка: "Цэны ў вас меншыя за салігорскія"

*АСТРАВЕЦ. Райцэнтр наведаў Генадзь Карпенка.*

За некалькі тыдняў да яго прыезду дэпутат райсавета **Іван Крук** звярнуўся з заявай у выканком, каб прадаставілі памяшканне ў РДК для сустрэчы з выбаршчыкамі.

За два дні да сустрэчы намеснік старшыні выканкома **Ірына Шляхтун** паведаміла, што ў зале РДК будзе праходзіць запланаваная дыскатэка для дзяцей, а ў зале кінатэатра – лекцыя аб шкодзе курэння. Выканком не адмаўляў у прадастаўленні памяшкання і прапанаваў для сустрэчы актавую залу дзіцячай музычнай школы.

Наўрад ці была каму патрэбная ў той дзень лекцыя аб шкодзе курэння, а вось дыскатэка ішла поўным ходам. Карпенка разам з жыхарамі райцэнтра і раёна, якіх прыйшло каля 70 чалавек, адшукаў памяшканне ў адным з прадпрыемстваў райцэнтра.

У выступленні Карпенка аддаў перавагу эканамічнаму становішчу ў краіне. Ён прывёў шэраг прыкладаў, якія раскрывалі сутнасць цяперашняй эканамічнай сітуацыі, а таксама да чаго яна прывядзе праз месяц–два.

Пасля сустрэчы Карпенка прайшоўся па астравецкіх крамах: «цэны на прадукты харчавання тут крыху меншыя, чым у Салігорску». На што жыхары зазначылі, што было б добра, каб і зарплаты выдавалі не меншыя, чым атрымліваюць салігорскія шахцёры.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*



НОВЫ ГОД НАБЛІЖАЕЦЦА. ЭКСПРЭС–АПЫТАННЕ ВІЛЕЙЧАН

## І каб за яйкамі не стаяць...

*Ці лічыце вы Новы Год за свята, што чакаеце ад яго і на што спадзеяцеся?*



*Ігар Скок, кіраўнік участка Вілейскага раённага вузла паштовай сувязі.*

Так, ведаю, што свята, буду сустракаць дома. Што чакаю? Змен да лепшага.



*Дзмітрый Таразевіч, настаўнік музычнай школы.*

Новы Год — свята, сямейнае. Чакаю Дзеда Мароза з падарункамі. Спадзяюся на зарплату настаўнікам не менш за 150 ум. адз. Жарт.



*Яўген Цароў, ляснік.*

Новы Год лічу за свята. Чакаю ўсяго добрага і каб у чарзе па 3 гадзіны за яйкамі не стаяць.



*Эва Міхайлава, прадпрымальнік.*

Безумоўна, лічу за свята, чакаю лепшага жыцця, спадзяюся на большую зарплату народу ў новым годзе, каб больш куплялі, каб усе былі шчаслівыя, багатыя і задаволеныя.



*Аляксандр Станілевіч, прадпрымальнік.*

Новы Год не лічу вялікім святам. Спадзяюся, запросяць у добрую кампанію; каб у кіраўніцтва слова не разыходзілася са справай, каб яно цікавілася, чым жыве народ.



*Марыя Рэут, прадавец.*

Лічу, што Новы Год — свята. Чакаю, каб Дзед Мароз машыну да пад'езда прыгнаў, кватэру хачу, грошай пад ёлкай. Для народа — здароўя.



*Алена Шульц, майстар вытворчага навучання.*

Вядома, сямейнае свята. Спадзяюся на паляпшэнне жыцця, на належную для педагога зарплату, каб дзецям можна было купіць вітамінаў.



*Ала Кавалёнак, прадавец.*

Свята, свята. Хачу, здароўе каб было, каб усім было добра.



*Іван Сушко, цясляр.*

Не лічу за свята. Чакаю стабільнасці ў жыцці. Спадзяюся на свае сілы.

ФОТААПЫТАННЕ ПРАВЁЎ П.А.ПАРАЦЫ

AIDS

# У кошт гасцінічнага нумара ўвойдуць прэзервативы



МІНСК. На базе МЦ "Юнацтва" прайшоў семінар па праблемах СНІДу, арганізаваны для прадстаўнікоў недзяржаўных выданняў. Нагадаю, што ў Маладзечне зарэгістраваны ВІЧ–інфіцыраваны. Па Міншчыне 37 інфіцыраваных, па Гродзеншчыне – 11. Таму на семінары, у асноўным, гаворка ішла пра папярэджанне распаcюджвання віруса.

Супрацоўніца рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІДу **Алена Аземша** гаворыць, што наспеў час, каб у кожнай гасцініцы прэзерватыў уваходзіў у кошт нумара. І, зразумела, выдаваўся ўсім кліентам.

Магчыма, прэзерватыў з'явіцца і ў кіёсках "Белсаюздруку". Айчыннай гумовай прадукцыяй рынак паступова насычаецца – распачала выпуск прэзерватываў "Белшына"...

Існуе дамоўленасць з міністэрствам спорту і турызму: на спартыўныя зборы, спаборніцтвы (асабліва, за мяжу) у набор спартсмена ўваходзяць прэзервативы.

Што тычыцца нейкіх лекаў – сродкаў нестае. Таму бясплатныя медыцынскія прэпараты атрымліваюць людзі толькі на пэўнай стадыі хваробы.

Праўда, інфіцыраваным бясплатна даюць вітаміны. Наогул жа, лячэнне хворага на СНІД каштуе каля 13 тысяч долараў.

Неэфектыўна, дарэчы, усіх "заганяць" на ВІЧ–тэсты. Хаця неабходных матэрыялаў хапае. Такі падыход – парушэнне правоў чалавека. Застаецца насельніцтву толькі растлумачваць.

*Васіль САВІЦКІ.*

# Вучымся па сваіх малюнках

ВІЛЕЙКА. Навучэнцы Ільянскага сельгастэхнікума ў дзень прафілактыкі СНІДу правялі конкурс плакатаў, якія самі намалявалі.

Пасля гэтыя плакаты перадалі ў паліклініку.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

СМАРГОНЬ ГАНДЛЁВАЯ

# Хоць Смаргонь і не сталіца, ЦУМам можа ганарыцца

СМАРГОНЬ. Магчыма, у нялёгкі час крызісу на спажывецкім рынку горад хоць у нейкай ступені ўратуюць магазіны недзяржаўнай формы ўласнасці. У прыватнасці, фірменныя.

У дадатак да ГУМа, які ўжо гадоў сем, у цэлым, нядрэнна зарэкамендаваў сябе, насупраць яго на вуліцы Савецкай днямі расчынілі дзверы першы паверх ЦУМа. Так назвалі сваё новае гандлёвае прадпрыемства работнікі малога камерцыйна–вытворчага гандлёва–закупачнага прадпрыемства "Ніва–ЗАС". На першым паверсе цяпер – шырокі выбар прадуктаў, у тым ліку, і цукру, масла, яек. Другі паверх, дзе будуць прадаваць прамтавары, мяркуецца адчыніць да Новага года.

Створанае калісь на заводзе аптычнага станкабудавання МП "Ніва–ЗАС" спачатку перарасло рамкі падсобнага сельскагаспадарчага цэха, а затым ператварылася ў адзін з буйнейшых гандлёвых канцэрнаў, бо адчыніла ўжо нямала новых магазінаў і павільёнаў у Смаргоні. Поспехі яго мясцовая ўлада справядліва звязвае з асобай дырэктара "Нівы" – **Мар'яна Дэмбоўскага**, колішняга выпускніка сельгасінстытута.

*Павел МАКЛЮК.*

# "Буронка" і "Каравай" – гандлю падмога

СМАРГОНЬ. 27 лістапада на вуліцы Я. Коласа расчынілі дзверы новыя магазіны ААТ "Смаргонскія малочныя прадукты" і хлебазавода – "Буронка" і "Каравай".

У першым з іх вельмі багаты выбар малакапрадуктаў, а таксама мяса, кілбас, паўфабрыкатаў ды спадарожных тавараў. У другім – хлебабулачныя вырабы.

Першы тыдзень работы паказаў, што новыя магазіны прыйшліся даспадобы не толькі смаргонцам, але і жыхарам навакольных раёнаў, бо дзе–нідзе ў іх з рэалізацыяй прадукцыі жывёлагадоўлі справы абстаяць не так добра, як у Смаргоні.

*Павел МАКЛЮК.*

# Павесялеюць ветэраны?

СМАРГОНЬ. Інваліды і ветэраны вайны, іншыя катэгорыі ільготнікаў апошнім часам праз савет ветэранаў усё часцей сталі звяртацца ў аддзел гандлю райвыканкома з просьбай адкрыць для іх магазін, дзе б найбольш неабароненыя катэгорыі насельніцтва здолелі па прымальнай цане і без чэргаў набываць дэфіцытныя сёння прадукты – масла, яйкі, цукар.

З 1 снежня райвыканком задаволіў просьбу ветэранаў ды інвалідаў. Аднак прымальных цэн, відавочна, не будзе, не паменшаюць і чэргі, бо цяпер на ўліку знаходзіцца каля 700 інвалідаў ды ўдвая больш інвалідаў другой групы, якія таксама належаць да ільготнікаў.

Хіба з'явіцца ўпэўненасць у тым, што належную колькасць найбольш дэфіцытных харчовых тавараў гарантавана атрымаецца купіць.

*Павел МАКЛЮК.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

МАЛАДЗЕЧНА. Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 25.11 | 2.12 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 230 | 250 |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | – | – |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 185 | 185 |
| Селядзец | 1 кг | 150–210 | 210–250 |
| Рыс | 1 кг | 120 | 130 |
| Цукар | 1 кг | 75 | – |
| Грэчка | 1 кг | 97 | 110 |
| Алей | 1 л | 190 | 230 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | – | – |
| Маянэз | 250 г | 50 | 59 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 255 | 290 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 80 | 90 |
| Соус там. «Красн.» | 0,5 л | 75 | 75 |
| Лімоны | 1кг | 235 | – |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 100 | 150 |
| Масла | 1 кг | – | 340 |
| Тварог | 1 кг | 80 | 70 |
| Малако | 1,5 л | 40 | 30 |
| Бульба | 1 вядро | 55 (мал.) | 60(мал.) |
| Яйкі курыныя | 1дзес. | 100 | – |

З НОВЫМ ГОДАМ!

МАЛАДЗЕЧНА. **Універсам "Чыгуначны"**

| | |
|---|---|
| Віно "Кадарка Барон" 0,75, "Кадарка Гамза" 0,75, "Кадарка Рубін" 0,75, "Змова манахаў" белае, "Змова манахаў" чырвонае, "Мускат атанэл" 0,75 | 873100 рублёў |
| Віно "Мерлот" 0,5 , "Лідзія", "Стары горад" 0,5, "Ізабэла" 0,5 | 533700 рублёў |
| Віно "Вінтаж маската" 0,5 | 572000 рублёў |
| Вермут "Чынзана" | 2408400 рублёў |
| Лікёр "Эмануэль" | 459100 рублёў |
| Віно "Наталі" | 711600 рублёў |
| Партвейн "Прыморскі" белы 0,7 | 399800 рублёў |
| Каньяк "Адборны" | 5131600 рублёў |
| Віно "Монастырская изба" | 925800 рублёў |
| Віно "Славянка" | 1016000 рублёў |
| Віно "Тырнава" 0,5 | 1016100 рублёў |
| Віно "Варна" | 903200 рублёў |
| Водка "Абсалют Курант" | 3722100 рублёў |
| Водка "Абсалют Цытрон" 0,375 | 3722100 рублёў |
| Водка "Абсалют Цытрон" 0,5 | 3941100 рублёў |
| Водка "Смірноф" | 2138800 рублёў |
| Водка "Руская" 0,5 | 164400 рублёў |
| Водка "Экспрэс" 0,5 | 164600 рублёў |
| Водка "Два буслы" 0,5 | 168100 рублёў |
| Віно «Кагор» 0,5 | 933500 рублёў |

*Падрыхтавала Вольга ПАСЛЕД.*

# Таварны рынак у небяспецы

АСТРАВЕЦ. Да ліку звычайных абавязкаў, звязаных з аховай аб'ектаў прадпрыемстваў і арганізацый, якую нясуць круглыя суткі супрацоўнікі мясцовай службы "Ахова", нядаўна дадаўся яшчэ адзін. Гэта выкананне прэзідэнцкага дэкрэта па абароне спажывецкага рынку.

Праўда, пасты, якія былі выстаўлены, за гэты час затрымалі не так ужо і шмат тавараў – 4 выпадкі вывазу прадуктаў, у выніку затрымання якіх дзяржаўны бюджэт папоўніўся ўсяго на 5 мільёнаў рублёў.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

АПАНТАНЫЯ

# Генератар інжынера Лаца

*Пачатак на 1–й стар.*

Кватэру галоўнага "генератаршчыка" Віктара Лаца наведаў міністр энергетыкі Беларусі **Герашчанка**, прадстаўнік адміністрацыі прэзідэнта **Пракаповіч**. Пасля візіту ў Мінску размясцілі заказ на выраб двух генератараў. Яны зробленыя, і сёння поўным ходам ідуць пуска–наладачныя работы.

– Зробленыя ў Мінску машыны (ЭКГ), – гаворыць сам Лац, – 5 метраў у вышыню, вагой каля 800 кілаграмаў кожная. Прычым, металу ў іх 15–20%, астатняе – бетон. Па сваёй магутнасці – гэта невялікія генератары. Кожная зможа абслугоўваць 7–8 прамысловых станкоў. З эфектам Уладзіміра Лявонава (ён лаўрэат дзяржпрэміі, шчыльна супрацоўнічае з Віктарам Лацам – аўт.) магутнасць павялічыцца разоў у 100.

> ***На зямлі шмат бясплатнай энергіі. Яе трэба толькі змагчы ўзяць. Тады машынам не патрэбны будзе бензін, закрыюцца атамныя станцыі, не трэба будзе выкладваць мільярды долараў за энерганосьбіты, а ў кватэрах будзе заўсёды цёпла і светла.***

2–пакаёвая кватэра Віктара Лаца нагадвае навуковую лабараторыю. Адзін пакой займае дэманстрацыйная машына. Менавіта яна і даказала многім, што ЭКГ – рэальнасць.

Сам гаспадар днямі прападае ў Мінску: чытае лекцыі студэнтам політэхнічнай акадэміі, дэманструе што–нішто з дасягнутага. Напрыклад, узнімае ў паветра 3–кілаграмовыя рэчы. Яшчэ год таму сталічная прафесура да такой складанай навуковай работы ставілася, мякка кажучы, скептычна. Сёння – з павагай і не без зайздрасці.

**– Няўжо за мяжой не ідзе распрацоўка генератараў?**

– Гэтую тэму распрацоўваюць у 33 дзяржавах. Справа ў тым, хто будзе першы. Лічу, што нас усё яшчэ крыху апярэджваюць індыйцы. Іхні вучоны Брус дэ Пальме арганізаваў цэнтр, які ператварыўся ў інстытут. Работу інстытута яго дзяржава фінансуе па патрэбнасцях.

**– Колькі ўжо грошай пайшло на стварэнне вашых машын?**

– Адразу так цяжка сказаць. Вялікі дзякуй мясцовым уладам – "Электрамодуль", ЗПМ, ЗЛМК зрабілі неабходныя нам дэталі.

**– Ці верыце вы самі ў серыйную вытворчасць генератараў? У нас заўсёды на рэалізацыю вынаходніцтваў не хапала грошай, арганізаванасці.**

– Я не толькі веру, але і перакананы. Калі ўсё атрымаецца, сімвалам Беларусі будзе энергетыка. Знімецца шмат праблемаў. На калгас дастаткова аднаго ЭКГ. Ён будзе і сена сушыць, і кароў даіць... Нашы прадпрыемствы будуць мець буйны дарагі заказ. У перспектыве чаму б генератар не рабіць у Смаргоні – на плошчах агрэгатнага завода, заводзе аптычнага станкабудавання; у Маладзечне – станказаводзе, ЗЛМК? Акрамя сваіх патрэб, Беларусь будзе экспартаваць генератары. А гэта вялікія грошы.

> ***На калгас дастаткова аднаго ЭКГ. Ён будзе і сена сушыць, і кароў даіць... Чаму б генератар не рабіць у Смаргоні – на плошчах агрэгатнага завода, заводзе аптычнага станкабудавання; у Маладзечне – станказаводзе, ЗЛМК?***

**– Я скептык. Веру ў тое, што бачу. Пакуль мы шмат ужываем слова "будзе".**

– Чараўніцтва бывае толькі ў казках. Тут жа доўгая і складаная работа. Дарэчы, ЭКГ экалагічна чысты. Бачыце комін кацельні за вокнамі? Справа неабходная. Аднак дыміць. Тое самае і аўтамабілі. Вось у мяне мадэль самазвала БелАЗа. Сёння падрыхтаваная дакументацыя на стварэнне нашага рухавіка магутнасцю ў 4 разы большай. Не трэба заліваць бензін.

**– Тым не менш, вы – чараўнік?**

– Здаецца, не. Мая маці – украінка, бацька – латыш. Я быў афіцэр КДБ. Супрацоўнічаў з Маскоўскім навуковым інстытутам. Давялося папрацаваць са стваральнікам "кацюш". Сваім настаўнікам лічу савецкага вучонага, прафесара Паўла Ашчэпкава. Ён, на жаль, пайшоў з жыцця. Мы з ім не толькі працавалі, але і сябравалі.

*Васіль САВІЦКІ.*

РЫБАКУ

# Увага: сом

ВІЛЕЙКА. Тут зноў шмат прэснаводнай рыбы. На міні–рынку каля ДК наступныя цэны: мянтуз (1,8 кг) – 450000 рублёў, шчупак (3,5 кг) – 650000 рублёў. У магазіне №10 (універсам "Вілія") 1 кг сазана каштуе 172000, сома – 172000. Самы, дарэчы, жывуць да 80 год, дасягаюць даўжыні 5 метраў і вагі да 200 кг і болей.

Ёсць тэорыя: нязнойдзеныя тапельцы ў вялікіх вадасховішчах, азёрах і рэках – ахвяры "акул" прэсных вадаёмаў.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

ЗАРПЛАТА

# Сяляне зайздросцяць рабочым

СМАРГОНЬ. Больш, як пяць гадоў запар работнікі завода аптычнага станкабудавання са спазненнем атрымлівалі зробленыя грошы. Чатыры месяцы парушаліся тэрміны выплаты зарплаты і ў адкрытым акцыянерным таварыстве "Смаргоньлён". Цяпер на абодвух прадпрыемствах заробленае плацяць своечасова. А на ЗАСе нават здолелі падвысіць заработкі, бо вытворчасць тут стабілізавалася.

Аднак з парушэннем тэрмінаў плацяць заробленае ў калгасах і саўгасах раёна, у большасці гаспадарак. Агульная сума пратэрмінаванай запазычанасці на пачатак лістапада складала 6,01 млрд. рублёў.

*Павел МАКЛЮК.*

# Камунальнікі задаволеныя

За кастрычнік узровень зарплаты работнікаў ВА ЖКГ вырас на 267,1 працэнта ў параўнанні з мінулагоднім кастрычнікам. 6060 тысяч рублёў складае тут сярэдні заработак.

Больш атрымліваюць у раёне толькі банкіры ды страхавыя работнікі – 9643,4 тысячы рублёў. А найменш – вяскоўцы – 3542,9 тысячы рублёў.

*Павел МАКЛЮК.*

